# Весткі й Паведамленьні

*інфармацыйны бюлетэнь Згуртаваньня “ПАГОНЯ”*

**Viestki j Paviedamleńni**

Сусьветнае сеціва: *e-krama.com, pahonia.com*
Электронны адрас: *viestki@mail.com*
✉ *P. O. Box 3225, Farmingdale, NY 11735*

№ 11 (621)
Лістапад 2017 г.


## Беларусь і бальшавізм: да 100-годзьдзя Кастрычніцкай рэвалюцыі 1917 году

Гэтымі днямі спаўняецца 100 год адной з найважнейшых падзеяў 20-га стагодзьдзя – Кастрычніцкай рэвалюцыі 1917 году – і ўтварэньня таталітарнай бальшавіцкай дзяржавы, што паўплывала на фармаваньне і разьвіцьцё беларускай нацыі. Дата гэтая вызначыла лёс Беларусі на дзесяцігодзьдзі наперад і важная для разуменьня сёнешняга стану незалежнай Беларусі. У пэўным сэнсе найноўшая гісторыя Беларусі адлюстроўвае хаду падзеяў 1917 году, калі вызваленая ад тыраніі краіна праз кароткі час падпала пад новую тыранію.

Напачатку Лютаўскай рэвалюцыі хіба адзінай беларускай нацыянальнай партыяй была Беларуская Сацыялістычная Грамада, заснаваная ў 1903 годзе. Беларусы, у параўнаньні да іншых этнасаў-суседзяў, былі менш сфармаваныя і мабілізаваныя як адзіны этнас. Уся Беларусь у тыя часы перажывала гуманітарную катастрофу –краіна была падзеленая лініяй фронту, мільёны знаходзіліся ў бежанстве ў Расеі, тыя хто застаўся, пакутвалі ад нястачаў і эпідэміяў. Некалькі мільёнаў беларусаў былі мабілізаваныя ў царскае войска.

Беларусь адыгрывала істотную ролю ў падзеях таго часу: адцінак фронту ў Беларусі прыкрываў Маскву і глыбінныя расейскія прамысловыя рэгіёны, на яе тэрыторыі вяліся асноўныя вайсковыя дзеяньні, у Магілёве знаходзілася стаўка расейскага галоўнага камандаваньня начале з царом Мікалаем. Аднак на Заходнім фроньце, войскі якога знаходзіліся на абшары Беларусі, жаўнераў і афіцэраў-беларусаў было вельмі мала. Значна больш было іх на Паўднёва-Заходнім фроньце, у Румыніі, дзе цэлыя вайсковыя часткі складаліся зь беларусаў.

На расейскім баку фронту дзейнічаў шэраг беларускіх арганізацыяў, што займаліся дапамогаю ахвярам вайны, выходзілі публікацыі па-беларуску. На нямецкім баку знаходзіўся шэраг беларускіх нацыянальных актывістаў, і яны вялі, хоць дзеля неспрыяльных умоваў, і ня дужа інтэнсіўна, нацыянальную працу сярод сялянства Меншчыны і Віленшчыны.

У лютым 1917 году ў Расейскай імпэрыі, і найперш у яе індустрыяльных цэнтрах, склалася выбуховая сытуацыя. Няздольнасьць старога ладу зарганізаваць гаспадарчае жыцьцё ваюючай краіны, эфэктыўна скарыстаць усе наяўныя рэсурсы, паглыблялася задужай экзальтаванасьцю лібэральных элітаў, найперш журналістаў і выдаўцоў газэтаў і часапісаў, што часам прадстаўлялі чытачам сытуацыю горай, чым яна, пры разважлівым аналізе, была на самой справе. Гэтаму спрыяла так-

*заканчэньне на бачыне 3*

# Кастрычніцкі сход Згуртаваньня “Пагоня”

У суботу, 14 кастрычніка, у Доме Маракоў прайшоў кастрычніцкі сход Беларуска-Амэрыканскага Згуртаваньня “Пагоня”. Напачатку старшыня арганізацыі сп. Віталь Зайка прывітаў прысутных і распавёў пра мэты і прынцыпы “Пагоні”.

Затым у рамках сходу прайшоў сэмінар-лекцыя па вучобе і працы ў ЗША. Першай з экспэртаў-удзельнікаў сэмінару выступіла сп-ня Аліса Ксяневіч. Яна распавяла пра сваю адукацыю і працу на Бацькаўшчыне і патлумачыла, чаму занялася псыхалёгіяй пасьля працы ў журналістыцы. Трапіўшы ў Амэрыку, яна скончыла касмэтычныя курсы і працавала ў салёне прыгажосьці, але хацела стаць псыхолягам. Калі паўстала пытаньне, куды паступіць вучыцца, абрала Лонг-Айлэнд унівэрсытэт. Каб атрымаць фінансавую дапамогу зьвярнулася па ўсе мажлівыя гранты і стыпэндыі, узяла пазыку. Здала іспыты TOEFL, GRE. Працягвала працаваць і брала 3-4 клясы на тыдзень. За паўтары гады змагла атрымаць ступень Master’s у псыхалёгіі. Наагул праграма была надзвычай цікавая, курсы захаплялі. Уся сыстэма адукацыі, у параўнаньні зь беларускаю, больш чалавечная і накіраваная на інтарэсы студэнта. Цяпер Аліса шукае працу. Яна распавяла, як вывучыла ангельскую мову і які ўзровень патрэбны для вучобы.

Сп. Анатоль Цяценькін працуе гандляром на рынку акцыяў. Перш ён скончыў спэцыяльныя курсы, школу па інтэрнэт-гандлі акцыямі, але гэтага было замала для непасрэднай практычнай дзейнасьці. Затым выйшаў на спэцыялістаў у галіне трэйдарства з тэхнічнай падтрымкай у інтэрнэце. Справа пайшла лепей, і цяпер часам удаецца за некалькі гадзінаў зарабіць $500, хоць, канешне, гэта не гарантавана, бываюць і страты. Анатоль згадаў, што таксама мае свае сеціўныя крамы на amazon.com і ebay.com, якія таксама, пры сур’ёзных адносінах і цярплівасьці, могуць прынесьць сур’ёзны прыбытак. Сп. Цяценькін адказаў на пытаньні пра трэйдарства і прывёў прыклад тавару, якім гандлюе праз амазон-краму.

Сп. Яўген Стэцко па адукацыі інжынэр-энэргетык, скончыў БНТУ, але яшчэ калі быў у Беларусі, пачаў працаваць тэставальнікам праграмаў. Проста набыў кнігу па гэтым пытаньні і вывучыў. У ЗША скончыў школу тэставальнікаў, атрымаў сэртыфікацыю і знайшоў працу праект-мэнэджэра. Ён адказаў на пытаньні пра сваю працу.

Сп. Алесь Тур працуе ў сфэры фінансавага мэнэджмэнту, скончыў Калюмбійскі унівэрсытэт. Спярша паступленьне ў Калюмбію і аплата вучобы ў памеры $62 000 у год для чалавека, які працуе портэрам і барменам, выглядала нерэальным. Але з дапамогаю і парадамі людзей змог сабраць дастаткова сродкаў праз фінансавую дапамогу, гранты, крэдыты і працягваў працаваць падчас вучобы, якая заняла тры з паловаю гады. Падчас вучобы стараўся нявязваць знаёмствы, працаваць інтэрнам, каб больш ведаць пра працу і людзей, якія пасьля маглі б дапамагчы парадамі і з пошукам працы. Працу знайшоў праз месяц пошукаў, яна была досыць інтэнсіўная, зь ненармаваным працоўным часам, але і добра аплочвалася. За першыя два гады змог выплаціць пазыкі за навучаньне. Цяпер Алесь мае працу ў сямейным фінансавым мэнэджмэньце – даглядае фінансы адной заможнай сям’і. Ён адказаў на пытаньні пра спэцыфіку сваёй працу, выбар спэцыяльнасьці і магчымасьці вучобы ў Калюмбіі.

Сп. Зьміцер Левіт падзяліўся з прысутнымі сваімі ўражаньнямі ад нядаўняй паездкі ў Беларусь, распавёў пра тое, што зьмянілася ад часу ягонага апошняга візыту.

Затым Ганна Шарко і Аляксандар Мазгавы распавялі пра сваю паездку на Аляску, працу там, спэцыфіку жыцьця ў самым паўночным штаце ЗША. Прысутныя зь цікавасьцю паслухалі аповеды пра асаблівасьці жыцьця і працы на Алясцы, надвор’е там, норавы тамтэйшых жывёлаў, у прыватнасьці ласёў і мядзьведзяў.

Пасьля ў разьдзеле “Рознае” прагучэлі аб’явы і паведамленьні, і затым прысутныя мелі нагоду калегавацца пры сьціплых пачастунках.

***Віталь ЗАЙКА***



# Беларусь і бальшавізм

*заканчэньне з бачыны 1*

сама значная колькасьць няўдалых і памылковых крокаў збоку расейскага ўраду. Падвышэньню агульнага ўзроўню цынічнага нігілізму ў грамадзтве паспрыяла ўсяляк падаграваная жоўтай прэсай сытуацыя вакол афэрыста Распуціна, што ўвайшоў у давер да царскай сям'і. У сьведамасьці збольшага вэстэрнізаванай інтэлігенцыі расейская абсалютная манархія была асацыяваная зь цемрашальствам, рэгрэсам, нямоднасьцю, непрэстыжнасьцю і выклікалі сарамлівасьць і няёмкасьць пры кантактах з замежнікамі .

Не спрыяла агульнай сытуацыі й асоба цара Мікалая – чалавека нерашучага і замкнёнага ў сабе, які, тым ня менш, мог быць па-свойму ўпартым і часам здольным настояць на сваіх пераважна не найлепшых рашэньнях, гамуючы пляны рэфарматараў.

Арышты сяброў вайскова-прамысловых камітэтаў, роспуск Дзяржаўнай думы, паступовы расклад і боязь адпраўкі на фронт сярод запасных вайсковых частак, пагаршэньне забесьпячэньня харчаваньнем і палівам у сталіцы імпэрыі Петраградзе стварылі надзвычайную напружанасьць, спрыялі палітычнай мабілізацыі работнікаў петраградзкіх заводаў нават пры адсутнасьці рэальнага лідэрства і каардынацыі збоку арганізаваных палітычных партыяў. Аднак тагачасная ўлада ў сталіцы, у якой на той момант не было цара, аказалася ня здольная эфэктыўна і цьвёрда выраўняць сытуацыю.

27 лютага мітынгі й дэманстрацыі сталі бесперапынна адбывацца ва ўсё большых памерах. Частка войскаў перайшла на бок маніфэстантаў, стала абяззбройваць паліцыю. Былі захопленыя арсэналы й палкавыя сховішчы зброі, запалалі паліцэйскія пастарункі, палітвязьні, а разам і крымінальнікі, былі выпушчаныя з шэрагу вязьніцаў. Часовы камітэт Думы і Петраградзкі Савет заявілі аб пераняцьці ўлады ў горадзе і ў краіне да часу ўсенародных выбараў ва Ўстаноўчы сход – структуру, якая мусіць вырашыць лёсы краіны. Праз некалькі дзён цар выракся прастолу на карысьць брата Міхаіла, а той выракся на карысьць Устаноўчага сходу.

Часовы камітэт Думы ўтварыў урад, які натуральна быў названы Часовым (урад князя Львова), і які адразу падпаў пад крытыку Петраградзкага савету, як прадстаўніцтва “эксплюататарскіх клясаў”.

У ліпені бальшавікі паспрабавалі захапіць уладу ў выніку ўзброенага паўстаньня, якое было разьбіта. Наверх выйшлі паведамленьні пра замяшанасьць нямецкіх уладаў у падтрымку бальшавіцкай партыі, якая была аб'яўленая па-за законам. Затым у верасьні адбыўся Карнілаўскі мяцеж, і бальшавікі на хвалі “змаганьня супраць контррэвалюцыі” зноў падьнялі галаву. Актывізавалі дзейнасьць, узяліся за ажыцьцяўленьне пляну захопу ўлады. Ім спрыяла папулярнасьць лёзунгу пра мір за любы кошт, развал расейскага войска, нерашучасьць і разьяднанасьць палітычных сілаў, што замінала бальшавікам на шляху да ўлады. У выніку захопу ўлады бальшавікамі ў Петраградзе неўзабаве па ўсёй краіне ўлада перайшла да мясцовых структураў партыі бальшавікоў, дзе мірна, а дзе, як прыкладам у Маскве, пасьля зацятага змаганьня.

У гэты ж пэрыяд у Беларусі з 4 сакавіка пачаў дзейнічаць Менскі савет рабочых і жаўнэрскіх дэпутатаў. А 25 сакавіка беларускімі нацыянальнымі арганізацыямі быў скліканы зьезд, на якім быў абраны Беларускі Нацыянальны Камітэт (БНК), што меў даручэньне ўступіць у кантакт з агульнарасейскім Часовым урадам і ўважаўся органам улады ў Беларусі да выбараў у Краёвую раду – аналяг Устаноўчага сходу ў Беларусі. Адпачатку савет, кіраўніком якога, нягледзячы на лічэбную перавагу эсэраў і меншавікоў, стаў бальшавік Міхаіл Фрунзэ (“Міхайлаў”), супрацьставіў сябе БНК, і ў Беларусі, як па ўсёй былой Расейскай імпэрыі, усталявалася дзьвухуладзьдзе. Бальшавікі цынічна эксплюатавалі лёзунгі пра мір і пра зямлю, і дасягнулі немалых посьпехаў у прыцягненьні на свой бок жаўнэраў і сялянаў. Бальшавікі таксама ўдала лавіравалі ў нацыянальным пытаньні, пераскокваючы з заяваў пра вольнае самавызначэньне для ўсіх народаў на заявы пра “злучэньне ўсіх пралетароў і недапушчальнасьць здрабненьня сілаў працоўных клясаў праз нацыянальнае адасабленьне”. Скарыстаўшы Карнілаўскі мяцеж для выхаду з палітычнай ізаляцыі, бальшавіцкая партыя, пад маркаю “змаганьня супраць контррэвалюцыі”, вярнула сабе пазыцыі, страчаныя падчас ліпеньскіх падзеяў, і пачала стала набіраць сілы для канчатковага захопу ўлады, актыўна прапагандуючы захоп зямлі сялянамі і развальваючы войска праз заклікі да жаўнэраў кідаць ваяваць і вяртацца дахаты. У другой палове верасьня бальшавікі атрымалі бальшыню ў Менскім савеце, і ўмацавалі свае пазыцыі ў Гомельскім і Віцебскім саветах. Пашыраліся сялянскія хваляваньні й стыхійны захоп памешчыцкіх зямляў.

Цантральная Рада Беларускіх арганізацыяў, пазьней рэарганізаваная ў Вялікую Беларускую Раду, не зьліквідавала супярэчнасьцяў паміж паасобнымі партыямі ў беларусім нацыянальным блёку, іншыя небальшавіцкія партыі (меншавікі, эсэры, бундысты, сіяністы, польскія сацыялісты) дзейнічалі пераважна за свае вузкапартыйныя інтарэсы. Спробы Цантральнай Рады па арганізацыі беларускага нацыянальнага войска на ўзор украінскіх і польскіх адзінак не былі пасьпяховыя. Наймацнейшая беларуская нацыянальная партыя, БСГ, раскалолася на правую і левую часткі.

Калі 25 кастрычніка ў Петраградзе перамог бальшавіцкі дзяржаўны перакул, названы пазьней “Кастрычніцкай рэвалюцыяй”, у гэты ж дзень уладу ў Менску паспрабаваў захапіць Менскі савет, кіраваны бальшавікамі. Быў сфармаваны Ваенна-Рэвалюцыйны камітэт і кансалідаваныя верныя бальшавікам вайсковыя адзінкі. Аднак першая спроба захопу ўлады была для бальшавікоў безвыніковай, бо значная колькасьць сілаў засталася ў апазыцыі да новай улады. Вялікая Беларуская Рада выдала “Грамату да беларускага народу”, у якой аб'явіла бальшавіцкі перакул незаконным і ганебным. 27 кастрычніка ў Менску быў створаны антыбальшавіцкі Камітэт уратаваньня рэвалюцыі. Яму ўдалося вымусіць бальшавікоў здаць частку пазыцыяў, але напачатку лістапада бальшавікі атрымалі падмацаваньні ад бальшавіцкіх вайсковых арганізацыяў Заходняга фронту, у тым ліку бронецягнік, і ўлада ў горадзе і ў губэрні канчаткова перайшла да бальшавікоў 2 лістапада 1917 г. У лістападзе бальшавікі па чарзе захапілі ўладу ў Віцебску, Гомелі й Магілёве, стаўка галоўнага камандаваньня таксама перайшла пад іхны кантроль. Імі быў сфармаваны кіраўнічы орган на беларускія землі – Абвыкамзах, пад кантролем якога прайшлі выбары ва Ўстаноўчы сход, дзе бальшавікі артымалі разам 49% галасоў.

Затым быў разгон Усебеларускага зьезду 18 сьнежня 1917 году, які ўсё ж здолеў захаваць Раду, што фактычна пераняла правамоцнасьць зьезду і пасьля спрычынілася да выданьня трох Устаўных граматаў і ўтварэньня Беларускай Народнай Рэспублікі й абвешчаньня Незалежнасьці Беларусі.

Так быў пакладзены пачатак 74-гадоваму камуністычнаму панаваньню ў Беларусі. У яго выніку Беларусь амаль цалкам страціла сваю нацыянальную культуру і традыцыі, адбыліся дэфармацыі ў сьветаглядзе й поглядах жыхароў Беларусі.

Тым ня менш нават саветызаваная і зрусыфікаваная Беларусь праз 74 гады пасьля Кастрычніцкага перакулу здолела пераадолець дзесяцігодзьдзі вынішчэньня ўсяго беларускага, скінуць хамут камунізму і здабыць незалежнасьць. І рэакцыйнае нэабальшавіцкае кіраваньне Лукашэнкі таксама сказанае на паразу і правал, раней ці пазьней.

**Віталь ЗАЙКА**

# “Галгатня пра ЗыШыА”

## Супэргерой

Хто такі герой? Супэрмэн, бэтмэн, спайдэрмэн. Галівуд дае простыя адказы. А вось хто такі нацыянальны герой? Тут ужо складаней. Ці годны гэтага імя Andrew Thaddeus Bonaventure Kosciuszko? У Аўстраліі ягоным імём названая самая высокая гара, у Амэрыцы горад у штаце Місісіпі, ну а ў Вікіпэдыі ягонае імя ва ўсіх мовах падаецца ў польскім гучаньні. Нядаўна беларусы ў Швайцарыі пагрызьліся з польскім амбасадарам за права на свайго нацыянальнага героя. Але што гэта за нацыянальны герой такі, якога трэба за рукавы і халявы цягнуць у сваё нацыянальнае поле? Касцюшка, калі і герой, то інтэрнацыянальны, таксама як Міцкевіч, Манюшка і іншыя грамадзяне сьвету. Асьвечаны змагар за правы і свабоды, за Рэч Паспалітую і за Амерыку, на нашу і вашу, за Машу і Наташу, ён вельмі добра адпавядае ўзору інтэрнацыянальнага супэргероя.




Ну а на патрэбы нацыянальных дзяржаваў патрэбныя зусім іншыя героі. Напэўна, гэта такія героі, да якіх няма справы ніякім іншым народам. А найлепш, каб да гэтых герояў іншыя народы ставіліся нават адмоўна. У беларускай сытуацыі пажадана, каб гэты герой змагаўся і супраць Расеі, і супраць Польшчы, каб яго не любілі на поўдні і недалюблівалі на поўначы. Было б выдатна, каб ён змагаўся і супраць бальшавікоў, і супраць нацыянал-сацыялістаў. Каб ён ня быў ані каталіком, ані праваслаўным, ну і, ня дай Бог, каб якім баптыстам. Добра, каб ягоная маці паходзіла з Усходняй Беларусі, а бацька з Заходняй, ці наадварот. Наш нацыянальны герой павінен паходзіць з сапраўднай правінцыі, ня зь Вільні і не са Смаленску, барані Бог, каб ня зь Менску. Ён не павінен злоўжываць тытунем або алькаголем. Езьдзіць ён мусіць нацыянальнымі сродкамі транспарту і апранацца ў вопратку нацыянальнага вырабу. Тут я гатовы быў бы прапанаваць некалькі адпаведных кандыдатураў, але, па вялікаму рахунку, у кожнага герой і так свой уласны.

**Віталь ВОРАНАЎ**

### Уплаты ў Згуртаваньне Ñêëàäê³ é àõâÿðàâàíüí³:

- **В. Аднавораў** ............ .60
- **С. Багданава** ............ .60
- **Я. Васілеўская** ............ .60
- **А. Казлоўскі** ............ .60
- **Ю. Канапацкая** ............ .60
- **А. Сухоцкі** ............ .60
- **З. Такарскі** ............ .60
- **П. Усовіч** ............ .60
- **А. Фаменка** ............ .60

**Усім шчыры дзякуй!**

**Уплаты ў Згуртаваньне “Пагоня” шліце на адрас:**
*P. O. Box 572*
*New York, NY 10113*

**Чэкі выпісвайце на імя скарбніка Згуртаваньня “Пагоня”** *Viktar Yedzinovich.*

Шаноўныя сябры “Пагоні”, калі ласка, своечасова аплочвайце гадавыя складкі і падпіску на інфармацыйны бюлетэнь “Весткі й Паведамленьні”.

## Наступны сход

**Беларуска-Амэрыканскага Згуртаваньня “ПАГОНЯ”**

адбудзецца ў суботу **4-га лістапада 2017 году** ў Доме Маракоў на Мангэтане па адрасу:

***Seafarers and International House***
***123 East 15th Street***
***New York, NY 10003.***

**На сходзе абудзецца прэзэнтацыя сёлетняга нумару літаратурнага альманаху беларускіх пісьменьнікаў замежжа “БЕЛАРУС” з удзелам аўтараў і выдаўцоў.**

*Даезд цягнікамі падземкі **L, N, Q, R, W, 4, 5, 6** да прыпынка **Union Square**.*

*Будынак знаходзіцца адзін блёк на ўсход ад **Union Square** па **15-й вуліцы** на скрыжаваньні з **Irving Place**.*

Заля сходаў на 2-м паверсе.

Пачатак: **а 6-й** гадзіне вечара.

-------------------

*Аб месцы і часе правядзеньня сходаў ды іншых імпрэзаў, ладжаных Згуртаваньнем “Пагоня”, можна даведацца наведаўшы сайт **pahonia.com***

### Ахвяравалі на выданьне бюлетэня *Весткі й Паведамленьні* :

- **В. Аднавораў** ............ .30
- **В. Кавалёва** ............ .30
- **А. Копат** ............ .30
- **Л. і П. Рыжыя** ............ .30
- **П. Сікорскі** ............ .30
- **А. Сухоцкі** ............ .30
- **П. Усовіч** ............ .30
- **А. Фаменка** ............ .30

**Шчыры дзякуй!**

*Падпісацца на бюлетэнь можна даслаўшы ў рэдакцыю аплату гадавой падпіскі ($30) на адрас:*
***Marat Klakotski***
***P. O. Box 3225***
***Farmingdale, NY 11735***
*Чэкі выпісвайце на імя скарбніка “Пагоні” **Viktar Yedzinovich**.*

*Паважаныя **А. Данкоў, Ю. і І. Валковіч, А. Волкава, Н. Лазоўская, М. Станішэўская,** калі ласка, паведаміце рэдакцыі вашыя дакладныя паштовыя адрасы.*